Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# ЗАРНІЦА

## АДНАДНЁЎКА

Вільня, Пятніца, 9-га студзеня 1925 г.

## Тое, што найважней.

Унутраныя дый у значнай меры і вонкавыя адносіны ў Польскай Рэспубліцы кшталтуюцца, як вынік падвойнага змаганьня: з аднаго боку йдзе змаганьне паміж пануючай буржуазіяй і многаміліённымі масамі працоўнага народу, з другога—паміж „пануючай“ нацыяй і так-званымі „нацыянальнымі меншасьцямі“.

Польскія працоўныя масы знаходзяцца тутака ў шмат выгаднейшым палажэньні, чым працоўныя масы — работніцкія і сялянскія — усіх другіх нацыянальных групаў, у тым ліку, ведама, і беларускае. Для нас змаганьне за нашу нацыянальнасьць — гэта ёсьць, разам з тым, і змаганьне за самае нашае *фізычнае існаваньне*.

Нацыянальнае змаганьне тым розьніцца ад змаганьня за іншыя інтарэсы народу, што ў аснове яго ляжыць элемэнт *творчасьці*. Каб народ мог бараніцца ад зьніштажэньня яго другімі нацыянальнасьцямі, ён павінен перад усім бясспынна тварыць тую культурную страву, багацьце якое адно толькі і можа *вызваліць народ ад чужацкага ўплыву*, бо пазвалае нам абхадзіцца бяз чужое духовае стравы, здаволіваючыся ўласнай. А як жыцьцё, ня спыняючыся ні на адну часінку ў сваім разьвіцьці, вымагае, каб гэная духовая страва была ўсьцяж новая і не адставала ад ходу жыцьця і бясспынных зьменаў яго, дык і тварэньне народам яго культурных цэннасьцяў не павінна і ня можа спыніцца ні на мінуту.

Усё гэтае павінны добра ўцяміць перад усім мы, беларусы, як нацыянальна найслабейшая група (ня лічучы яшчэ слабейшых за нас літвіноў) у польскім гаспадарстве. Беларускае пытаньне ў Польшчы—гэта пытаньне не аб большай або меншай свабодзе для разьвіцьця нашых нацыянальных асаблівасьцяў: гэта для нас *справа жыцьця або сьмерці наагул*.

Вось чаму ўсе беларускія партыі—ад самых правых да крайніх левых—зыходзяцца ў сваіх паглядах на значэньне беларускага нацыянальнага пытаньня ў агульным жыцьці, як Заходняе Беларусі, так і ў жыцьці Польшчы. Беларускае нацыянальнае змаганьне, як бясспыннае тварэньне нацыянальных культурных цэннацьцяў, утрымлівае наш народ у стане *сталае актыўнасьці*, вучыць яго верыць выключна ў свае ўласныя сілы і спадзявацца толькі на сябе самога.

Гэта вельмі добра разумеюць тыя, што цікуюць на пагібель нашага народу. І вось мы бачым, як розныя прадажныя адзінкі, што; „хоць свая костка, ды сабачым мясам абрасла і ваняйець*), выступаюць пад беларускім нібыто сьцягам, пекна гавораць аб нашых правох і патрэбах, але... ўсемі сіламі стараюцца ўсыпіць наш народ, ўсе надзеі перакладаюць не на нашу ўласную творчую працу, а на польскі ўрад, які, бач, сам для нас зробе ўсё, што для нас патрэбна, абы толькі мы яго добра прасілі!

Даволі сабе прыпомніць хоць-бы тое, што ў Польшчы ўрад — нацыянальна чыста польскі, каб зразумець усю ілжывасьць і ўсю шкоднасьць для нашага народу падобных спадзяваньняў. Сам-жа п. міністар Тугутт у сваей прамове аб „санацыі Кресаў“ зусім выразна заявіў, што ён, як паляк, натуральна, больш спагадае польскім школам у Заходняй Беларусі, чым беларускім, дый зусім ня імкнецца тварыць беларускія школы: гэта справа саміх беларусаў! А беларускіх прадстаўнікоў у складзе польскага ўраду няма і, трэба думаць, ніколі ня будзе...

І вось яшчэ адзін лішні доказ таго, што ўсія *справа захаваньня самага нашага нацыянальнага быту залежыць* — ды заўсёды будзе залежаць!—*выключна аб нас самых, ад нашае самадзейнасьці і нашае творчае сілы*!

*) Словы смаленскага каштеляна Мялешкі, сказаныя ў варшаўскім Сойме у прысутнасьці караля ў 1589 годзе. Мялешка *тады* прамаўляў пабеларуску; *цяпер* гэта забаронена!

## На Спакойным акіяне.

На падставе адпаведнай рэзалюцыі амэрыканскага Кангрэсу прэзыдэнт Куліджж даў загад ваеннаму міністру, каб чым хутчэй усе ваенныя караблі Амэрыкі атрымалі новае ўваружэньне, якое-бы стаяла на вышыні сучаснай артылерыйскай тэхнікі.

Як ведама, у хуткім часе маюць адбыцца на Спакойным акіяне вялікія манэвры амэрыканскага флёту. І вось толькі што, **перад вышэйпрыведзеным загадам Куліджа**, японскі ўрад заявіў афіцыяльна, што будзе ўважаць гэтыя манэвры амэрыканскага флёту **за выразны няпрыязны крок** Амэрыкі, скіраваны проці Японіі, — за доказ падгатоўкі яе да вайны з апошняй. І вось загад амэрыканскага прэзыдэнта аб паляпшэньні артылерыі флёту зьяўляецца як быццам адказам на гэты пратэст Японіі.

Ясна з гэтага відаць, што на Спакойным акіяне наспяваюць нейкія ня зусім спакойныя здарэньні.

Як ведама, пасьля разрыву заюзу з Японіяй, Англія зьвярнулася да свайго больш натуральнага, бо блізкага па крыві, і больш магутнага саюзьніка і канкурэнта на моры—Амэрыкі, з якой аднэй толькі згаджаецца падзяліць уладу на акіянах.

У паразуменьні з Амэрыкай новы англійскі ўрад пастанавіў пабудаваць вялікую „марскую базу“ (вялікі ваенны порт—стаянку для ваеннага флёту—з докамі для будаваньня і рэмонту караблёў і г. д.) для ўсяго флёту Англіі на Спакойным акіяне—у Сінгапуры.

Ясна, што гэтым Англія падмацоўвае свае „ўплывы“ і сваё панаваньне на моры—на Спакойным акіяне—там, дзе дагэтуль,—асабліва ад часу вялікай вайны, адцягнуўшай усе эўрапэйскія сілы з Азіі, чула сябе паўнаўладным гаспадаром Японія.

Дык ясна, што пры паразуменьні Англіі з Амэрыкай абодва флёты іх зьвядуць да нуля панаваньне Японіі на Спакойным акіяне,—а з адбудовай Сінгапурскай базы — нават у самай „японскай частцы“ акіяну.

Японія ўжо ня раз заяўляла пратэст проці будаваньня гэтай базы, заяўляючы таксама, што для яе гэта—папросту правакаваньне вайны.

Але японцы—зусім не такі пасыўны народ, каб пакарыцца абставінам ці схіліцца перад варожай сілай. Ня спужаліся яны калісьці магутнай Расеі—ня спужаліся цяпер і наймагутнейшых у сусьвеце марскіх дзяржаваў. Наадварот — пачалі шукаць у іх **слабых мейсцаў**.

Пачуўшы пагрозу на моры, Японія пачала шукаць апоры на сухаземлі. І тут сам сабой насоўваўся расейска-кітайска-японскі саюз, апрацаваны бальшавікамі, якія таксама маюць парахункі з Англіяй. Ня кажучы тут аб шырэйшым значэньні гэтага заюзу, мэта яго, з пункту гледжаньня Японіі — зусім ясная: пагражаючы інтарэсам Амэрыкі і Англіі ў Кітаі гэтым саюзам, вызваляючым Кітай ад эўрапэйска-амэрыканскай няволі, Японія можа ў значнай меры паралізаваць скіраваныя проці яе крокі канкурэнтаў на Спакойным акіяне.

Але якраз гэтая падрыхтоўка да будучае самаабароны Японіі можа выклікаць выбух „прэвэнцыйнай“ (папераджаючай) вайны Амэрыкі проці Японіі, у выпадку якой Англія адкрыта, ці не, але зусім выразна стане на бок Амэрыкі, каб разграміць Японію, ня даўшы ёй узмацавацца на груньце расейска-кітайска-японскага саюзу.

Так, ці гэтак, а на Спакойным акіяне робіцца неспакойна.

А кожнаму ясна, як гэты ваенна-марскі спор, зьвязаўшы моцным вузлом Амэрыку, Англію і Японію на Далёкім Усходзе, разьвязаў адначасна рукі на тым-жа Усходзе ўраду СССР.

**М.**

## Дамаганьне роднае школы.

Ня гледзячы на самыя рознародныя перашкоды з боку адміністрацыйнае ўлады, ня гледзячы на пагрозы карамі за дамаганьне беларускае школы і т. п.,—жаданьне вучыцца ў роднай мове расьце з кожным днём. У іншых мясцох, дзе народ байчэйшы і сьмялейшы, ужо адкрыты **прыватныя** беларускія школы, утрымліваныя самімі сялянамі. У другіх народ дамагаецца беларускіх **урадавых** школ — ці то новых, ці ператвораных з істнуючых цяпер супраць волі нясяленьня школ польскіх.

Паводле інфармацыяў (далёка няпоўных!), атрыманых Цантральнай Беларускай Школьнай Радай, лічба сялянскіх прыгавораў аб адкрыцьці беларускіх школ за два-тры апошнія месяцы дайшла ўжо **95**. Яна дзеліцца па паяводзтвах і паветах гэтак:

| | | |
|---|---|---|
| **у Віленшчыне:** | | |
| Ашмянскі пав. | — — — | 2 шк. |
| Дзісьненскі „ | — — — | 9 „ |
| Дунілаўскі „ | — — — | 6 „ |
| Вялейскі „ | — — — | 7 „ |
| **У Наваградчыне:** | | |
| Валожынскі пав. | — — — | 7 шк. |
| Баранавіцкі „ | — — — | 2 „ |
| Наваградзкі „ | — — — | 10 „ |
| Нясьвіжскі „ | — — — | 15 „ |
| Лідзкі „ | — — — | 1 „ |
| Слонімскі „ | — — — | 16 „ |
| Стаўпецкі „ | — — — | 1 „ |
| **У Палесьсі:** | | |
| Косаўскі пав. | — — — — | 7 шк. |
| Пінскі „ | — — — — | 1 „ |
| Пружанскі „ | — — — — | 4 „ |
| **У Беласточчыне:** | | |
| Горадзенскі пав. | — — — — | 2 шк. |
| Ваўкавыскі „ | — — — — | 4 „ |
| Беластоцкі „ | — — — — | 1 „ |
| Усяго | — — — | 95 шк. |

У 57 школах, дзе лічба вучняў точна паказана, налічваецца 3.954 дзяцей школьнага веку,—значыць, сярэднім лікам, па 70 дзяцей на школу. Прыймаючы гэтую цыфру, як сярэднюю для ўсіх школ, атрымаем для 38 школ, дзе лічба вучняў не паказана, яшчэ 2,660 дзяцей. Значыць, **дамаганьне школы ў беларускай мове выявілі** за апошнія месяцы **бацькі 6.614 дзяцей.**

## Заходняя эўропа і С.С.Р.Р.

Былы расейскі пасол у Англіі К. Д. Набоков у карэспандэнцыі з Лёндану да газ. „Сегодня“, паміж іншым, падае зьмест дакладу знамянітага англійскага мільянэра Леслі Урквартa, меўшага калісь вялікія канцэсіі на Урале і ў Сыбіры. Даклад гэты быў прачытаны на паседжаньні расейска-азіяцкага Таварыства ў Лёндане.

У сваім дакладзе гэты фінансіст-прамысловец, на падставе свайго дасьледу і ізучэньня стану СССР, заявіў, што „фінансавы стан Расеі пры бальшавіках значна палепшыўся, ня гледзячы на камунізм“, што „бліскучая праца камісарыяту фінансаў выклікае захопленьне ўсякага, неварожага напярод дасьледчыка“, што „земляробства ў Расеі працьвітае, бо сялянства дало адпор спробам бальшавікоў увясьці камуністычнае законадаўства“ — (можа **яшчэ** і дзеля таго, што сялянства для земляробства атрымала... зямлю?!).

Дакладчык запэўніў слухачоў, **што** радавая ўлада павінна будзе разьвіваць прамысловасьць, каб здаволіць патрэбы сялянства, а дзеля гэтага мусіць зьвярнуцца да замежнага капіталу, — але ўжо можа не да **ўрадавай**, але да **прыватнага** капіталу. І на гэта трэба будзе пайсьці.

„Уркварт—чалавек зраўнаважаны, ведае добра, што кажа. І дзеля таго яго выступленьне трэба прызнаць вельмі паказальным“.

апекі і няволі Нямеччыны ў яе пераможцаў. Ад гэтага дня Нямеччына атрымлівае ізноў поўную свабоду рабіць тарговыя дагаворы. І вось нямецкі ўрад хоча выкарыстаць гэтую волю, каб на нарушэньне Версальскага Трактату саюзьнікамі (прадаўжэньне акупацыі Кельну) адказаць адмовай заключыць з імі тарговыя договоры.

Калі Нямеччына зробіць гэта, дык перад усім адносна да Францыі, з якой спадзяюцца тады так-званай „мытнай вайны“...

## Да стварэньня ўраду ў Нямеччыне.

3-га студня канцлер Маркс адбыў рад нарадаў з правадырамі партыяў: цэнтру, людоўцаў і дэмакратаў, ад якіх залежыць стварэньне тэй ці іншай урадавай большасьці—налева ці направа. У выніку гэтых нарадаў сцьверджана, што ўраду абапертага на парляманцкай большасьці, стварыць ня ўдасцца.

Дзеля гэтага, як піша нямецкая прэса, сярод кіруючых сфэраў узьнялася думка стварэньня габінэту не парляманцкага, але так-званага „дзелавога“—фаховага (як у Польшчы цяпер). Але нацыяналістычная прэса страшэнна абураецца на думку аб „габінэце ўрадоўцаў“—у той час, калі перад дзяржавай стаяць такія адказныя палітычныя задачы (асабліва ў заграпічнай палітыцы), ад вырашэньня якіх залежыць лёс народу на многа гадоў наперад.

Начарзе стаяць: справа адказу ўсяго Нямецкага народу за нарушэньне саюзьнікамі Вэрсальскага Трактату (адмовай эвакуацыі Кельнскага абшару) і інш.

Адказ на гэтыя пытаньні з боку назначаных прэзыдэнтам „урадоўцаў-міністраў“ запраўды-ж ня будзе мець ніякай павагі вонках.

## Першае паседжаньне новага Рэйхстагу.

6 студня адбылося першае паседжаньне Нямецкага Парляманту. Спадзяваных дэманстрацыяў з боку камуністаў — у знак пратэсту проці арыштаў іх паслоў — ня было.

Рэйхстаг адкінуў прапазіцыю людоўцаў і нацыяналістаў аб тым, каб адлажыць паседжаньні, пакуль ня будзе створаны новы ўрад.

Прынята прапазіцыя камуністаў аб сьпешнасьці іх інтэрпэляцыі ў справе арыштаў камуністаў-паслоў; дыскусія ў гэтай справе назначана на наступнае паседжаньне, якое мела адбыцца ў сераду 7 студня.

З гэтых галасаваньняў ужо відаць, што правая палова парляманту ня мае ў ім рашучага голасу.

## Тайная канфэрэнцыя нямецкіх камуністаў.

З Вены пішуць, што там нядаўна адбылася канфэрэнцыя нямецкіх камуністаў, на якую дэлегаты прыехалі з Нямеччыны пад чужымі прозьвішчамі. Пасьля канфэрэнцыі паліцыя арыштавала некалькі выдатных дзеячоў партыі.

## Паразуменьне Англіі і Францыі.

Парыжскі карэспандэнт вядомай англійскай газэты піша, што ў працягу сьнежня францускія і англійскія палітыкі стварылі падставу для паразуменьня аб усіх найважнейшых справах, якія дагэтуль яшчэ не ўрэгуляваны паміж абыдвума краямі. Падрыхтавана нават магчымае супольнае ўмяшацельства ў кітайскія падзеі.

Зразумела, што справа „супольнага фронту“ адносна да ССРР... і барацьбы з уласнымі краёвымі камуністамі стаяла на першым пляне.

Англія, быццам, абяцала згадзіцца на ўсе дамаганьні Францыі ў справе гарантаваньня яе бясьпечнасьці...

Што гэта за цуд стаўся?! Ці-ж запраўды абедзьве саюзьніцы так напужаліся нямецкіх збраеньняў?!

## Англійскія доміпіі аб „Жэнеўскім пратаколе“.

Англійскія газэты пішуць, што ўсе англійскія доміпіі і калёніі, апрача толькі аднэй (?), адмовіліся ад учасьця ў канфэрэнцыі ў справе прыняцьця „жэнеўскага пратаколу“... Гэтым уся справа, уся праца апошняй „гістарычнай“, „вялікай“ Сэсіі Лігі Народаў, з дзеяльным учасьцем найвялікшага польскага пацыфіста мін. Скшыньскага, — зводзіцца да нуля...

Бо — які-ж можа быць „пратакол“, калі на ім няма подпісу Англіі і Амэрыкі, ня кажучы ўжо аб Нямеччыне і ССРР?!

## Чаго Дэ-Монзі езьдзіў у Бэрлін?

Пасьля таго, як Красін рашуча даў адмоўны адказ на дамаганьні Францыі прызнаць царскія даўгі і выехаў у Маскву, вядомы францускі сэнатар дэ-Монзі, праз якога галоўным чынам наладжывалася паразуменьне з ССРР, паехаў у Бэрлін і там меў некалькі нарадаў з прадстаўнікамі радавага ўраду, бо ў Парыжу ўжо — ня было з кім гаварыць...

## Палітычнае палажэньне ў Вэнгрыі.

Палітычнае палажэньне ў Вэнгрыі—вельмі падобнае да палажаньня ў Італіі: гэткі самы „нацыянальны“ і рэакцыйны ўрад Бэтлена, пужаючы край небясьпекай павароту ўлады камуністаў, завёў такую-ж дыктатуру, як і фашызм у Італіі.

Як у Італіі, і ў Вэнгрыі апазіцыя, зусім бяссільная ў парляманце, ад якога астаўся адзін толькі назоў, пакінула парлямант, рашуча дамагаючыся павароту краю да канстытуцыі.

І вось, пад націскам публічнай апініі і фінансавага крызісу, урад Бэтлена здаўся і абяцаў апазіцыі рад уступак, каб толькі яна вярнулася ў парлямант.

## Вакханалія паліцыі ў Харватыі.

У Харватыі ўрад сэрбскіх нацыяналістаў („радыкалаў“) робіць запраўдную вакханалію паліцэйскіх рапрэсіяў. Пасьля аб'яўленьня па-за законам харвацкай рэспубліканска-сялянскай партыі (партыі Радіча) пачаліся вобыскі і арышты яе правадыроў. У сталіцы Харватыі, Загрэбе, рад обыскаў у прыватных кватэрах дэпутатаў і ў „Сялянскім Доме“, дзе мясьціўся ўрад і архіў партыі, даў, як падае з урадавых крыніцаў ПАТ, вельмі багаты матар'ял, кампрамітуючы партыю. Обыскі ідуць далей. Арыштаваны—віцэ-старшыня і сэкрэтар партыі.

Сэрбская партыя дэмакратаў (партыя Давідовіча), якая зрабіла спыненую каралём спробу паразуменьня і супольнай дзяржаўна-творчай працы з харвацкімі „сялянамі Радіча“, выдала адозву, у якой вельмі абураецца на ўсе гвалты і рэпрэсіі проці партыі харвацкіх сялян і называе ўсю ўрадавую акцыю адным беззаконьнем.

Як ведама, урад Пашыча, як гэта робіцца і дзе інш,—для разгрому харвацкага нацыянальнага і палітычнага жыцьця і адзінства,—купіў сабе за міністэрскія пэнсіі некалькі харвацкіх „грамадзянаў“—кондот'ераў (наймітаў)...

Адзін з іх, харвацкі „міністар без партфэлю“ Дрінковіч, якраз і падпісаў па загаду Пашыча — прыказ аб зачыненьні харвацкай сялянскай партыі...

Дык вось, на кватэру гэтага „ўласнага міністра Харватыі“ зьявіўся нейкі харват і зьбіў яго кіём. Міністар пачаў страляць з рэвальвэру...

ПАТ не падае, ці забіў міністар напаўшага на яго супляменьніка, ці ён жыве...

## Радіч у Вене.

Радіч, які, як паведамляюць з Вены, увесь час хаваўся ў сваім краі, цяпер уцёк у Вену...

## Арышт Радіча. (?)

З Белграду афіцыяльна паведамляюць, што ў Загрэбе ў доме свайго сваяка арыштаваны правадыр харвацкай сялянскай партыі, Радіч. Там-жа канфіскаваны тайны архіў Радіча. Трэба пачакаць пацьверджаньня сэнсацыйнай весткі, бо толькі што тэлеграмы паведамлялі, быццам Радіч—ці-то ў Вене, ці ў Будапэшце.

## Забойства правадыра македонскіх незалежнікаў.

Белградзкія газэты паведамляюць аб забойстве правадыра македонскіх партызанаў-незалежнікаў, Сьцяпана Місевіча.

## Зьмена назову сталіцы Нарвэгіі.

Ад новага 1925 году сталіца Нарвэгіі, якая ад 1624 г. да 1924 называлася Хрыстыяніяй, згодна з пастановай караля і парляманту, атрымала свой стары назоў **Осло**, які яна насіла ў працягу 6 вякоў — ад яе заклядзінаў у 1047 г. да 1624 г.

Зьмена назову была адсьвяткавана ўрачыста ўсім народам.

## Ізноў хатнія баі ў Кітаі.

З Шанхаю паведамляюць, што генаралы ізноў падпялі хатнюю вайну. Ужо больш тыдня ідуць баі ў 20 мілях ад Шанхаю. Забіты дагэтуль больш 300 жаўнераў.



# ХРОНІКА.

**Беларускае Крэдытнае Таварыства.** У нядзелю, 4 студня, у Вільні адбыўся ўстаноўчы сход арганізатараў каапэратыўнага Беларускага Крэдытнага Т-ва. Быў прыняты ў аканчальнай форме статут Т-ва, і адбыліся выбары сяброў Рады Т-ва, у лічбе 7 асоб і 3 заступнікаў. Выбраны ў Раду: дэп. Ярэміч, Р. Астроўскі, дэп. Мятла, каапэратары Гапановіч і Будзька, Ул. Бонч-Асмалоўскі і М. Келмуць. Заступнікі: сэн. Назарэўскі, каапэр. Протас і сэн. Багдановіч. Рада выбярэ Урад Т-ва.

Патрэба беларускае фінансавае ўстановы, гэткага тыпу, адчувалася ўжо даўно, і стварэньне яе трэба горача прывітаць. Трэба спадзявацца, што Т-ва ў хуткім ужо часе распачне сваю дзейнасьць.

**Партыйнае жыцьцё.** У горадзе зьявіліся беларускія праклямацыі, у якіх абвяшчаецца, што Камуністычная Партыя Заходняе Беларусі, якая дагэтуль зьяўлялася часткай Камуністычнае Партыі Польшчы, аддзялілася ад Варшавы і істнуе самастойна.

**Валэйшаўская „Рада“ ізноў у п. мін. Тугутта.** У „Dz. Wil.“ піша яго карэспандэнт з Варшавы, што 3/I віцэ-прэм'ер Тугутт прыняў ізноў прадстаўнікоў „Тымчасовай Беларускай Рады“ (папросту—пана Валэйшы...) п. п. Косьцевіча і Пышкова.

Што-ж гэта такое?—А дзе-ж гэта сам яе прэзэс п. Павлюкевіч? Ці-ж яго зорка, толькі-што так ярка запаленая на беларуска-людвісарскім небасхіле рукою пана Валэйшы, ужо закацілася—па загаду таго-ж антрэпрэнёра-рэжысэра і дэкаратара?!.

**Даразныя суды.** У Вільні на вуліцах расклееныя вялізарныя плякаты з подпісам міністра ўнутраных спраў Ратайскага, якія абвяшчаюць аб увядзеньні даразных судоў блізу на ўсенькім абшары, які належаў да Расеі.

Плякаты напісаны выключна ў польскай мове, хаця суляць кару сьмерці і хіба-ж павінны быць напісаны так, каб іх разумеў увесь народ, які ў большасьці папольску чытаць ня ўмее...

# Як выкладаць гісторыю.

(*Даклад прафэсара Віппэра*).

На ўселатвійскім зьезьдзе пэдагогаў у Рызе вядомы прафэсар гісторыі Віппэр (былы праф. Маскоўскага Унівэрсытэту) зрабіў вельмі важны і цікавы даклад, які мы лічым годным асаблівай увагі нашых выкладчыкаў гісторыі ў гімназіях.

Даклад ахвяраваны мэтодыцы гісторыі (пэдагагічнаму спосабу яе выкладаньня).

Прафэсар Віппэр, лічучы пачатковую і сярэднюю школу адзіным неразрыўным цэлым, разьдзяляе выкладаньне гісторыі на тры канцэнтры (маючыя пэўную суцэльнасьць і закончанасьць курсаў): першы курс — эпізодычны,—для дзіцячага веку да 12 гадоў; другі—сыстэматычна-апавядальны—ад 12 да 15 гадоў і трэці—курс самастойнай працы над тымі ці іншымі задачамі па гістарычнай навуцы.

**Аснаўным ядром выкладаньня гісторыі прафэсар лічыць гісторыю роднага народу**, але яе ня можна выкладаць ізалявана, асобна ад агульна-людзкіх падзей,—„заганяць у нейкі правінцыяльны кут“. Шырокая сусьветная пэрспэктыва, агульна-людзкі фон—канешны тут, з пункту гледжаньня як патрыёта, праціўніка інтэрнацыянальнага безразьлічча, таксама і гісторыка-ўзгадаваццеля.

Тое, што прафэсар Віппэр казаў там пра Латвію, яшчэ больш тасуецца да Беларусі: гісторыя і сучаснасьць Беларусі мае асабліва захопліваючую для гісторыка цікаўнасьць, бо яна займае вельмі цяжкае і адказнае палажэньне **на ўсходзе заходняе Эўропы**, мае гістарычным заданьнем **вытварэньне свайго нацыянальнага аблічча—пад магутнымі перакрыжаванымі ўплывамі Эахаду і Усходу**—у страшэннай барацьбе за сваю ўласную індывідуальнасьць.

У першым курсе гісторыя выкладаецца эпізодычна, не сыстэматычна, — даецца, **як найбольш, жывых апавяданьняў** з гісторыі розных краёў. Бо дзіцячаму веку патрэбны не адараваныя схэмы і імглістыя ідэі, якімі захаплівалася ўстарэўшая сацыялягічная школа, але **яркія драматычныя факты,—героі, слаўныя дзеяньні, вялікія здарэньні**, прамовы. Тут важна адзначыць чым больш **індывідуальных рысаў у характарыстыцы народаў і паасобных гістарычных дзеячоў.**

Другі канцэнтр павінен даць жывую **пэрспэктыву, сувязь і зразуменьне канкрэтнага гістарычнага працэсу**. І тут ізноў дакладчык рэзка крытыкуе стары мэтад сацыялягічнага ўпрашчэньня і абагульненьня ў будове гістарычных схэмаў.

Трэба ўвясьці ў выклады **чым больш фактаў, імён, гадоў**, не абмінаючы зусім **войнаў** (ад чаго ўхілялася старая „прагрэсыўна-пацыфічная“ даваенная пэдагогіка). Ня трэба баяцца, што гэта ўсё перагрузіць памяць вучняў, бо ўсе гэтыя жывыя факты будзяць выабражэньне падростка, і пашыраюць яго псыхічныя сілы, захопліваючы ўсю яго маладую істоту.

Наадварот гатовыя „ідэі“ і гатовыя вывады з непададзеных фактаў, бяз жывых людзей, іх — дзеячоў ня ўзвышаюць выабражэньня, не захопліваюць душы, ня робяць з гісторыі таго, чым яна павінна быць перад усім: **уваскрашэньнем мінуўшчыны**.

Трэці канцэнтр павінен навучыць вучня аснаўных мэтадаў самастойнае працы і самастойнага мышленьня аб тых гістарычных дакумэнтах і матар'ялах, якія пакінуты нам мінуўшчынай, — на падставе якіх **пішацца гісторыя**. Дзеля гэтага падручнікам павінна быць хрэстаматыя гістарычных дакумэнтаў, на падставе якіх трэба задаваць вучням для самастойнага апрацаваньня тыя ці іншыя задачы.

Гэтак выпрацоўваецца ў вучняў самастойная думка і творчасьць пры адбудоўваньні мінуўшчыны і ўваскрашаньні жывых абразоў прошлага.

Можа ня ўсё, асабліва з апошняга 3-га канцэнтру, магчыма зьдзейсьніць у нашых школьных варунках—ужо ў сярэдняй школе. Але агульная схэма прафэсара Віппэра, зусім ад усялякіх пабочных „палітычных“ і іншых тэндэнцыяў і, наадварот, пабудаваная на ўнутраных законах прадмету гісторыі і псыхікі школьнай моладзі,—можа лічыцца бясспрэчнай, з чыста пэдагагічнага боку.

Нашыя гісторыкі павінны зацікавіцца гэтым дакладам праф. Віппэра.

С.

**у справе школьнага прымусу.** Ня гледзячы на арт. 28 дэкрэту аб школьным прымусе, дзе сказана, што вучыць дзяцей можна ня толькі ў дзяржаўнай школе, але і ў прыватнай, або дома,— з розных месц даходзяць весткі, што школьныя інспэктары штрафуюць бацькоў за непасылку дзяцей у польскую школу, хаця апошнія ходзяць вучыцца ў сваю—беларускую. Асабліва „стараецца“ ў гэтым кірунку слонімскі інспэктар.

З прычыны таго, што гэткія штрафы — незаконныя, дэпутат Ярэміч яшчэ перад Калядамі зьвярнуўся да віцэ-прэм‘ера Тугутта, які, выказаўшы сваё абурэньне з прычыны такога беззаконьня, абяцаўся гэту справу ўладзіць.

Аднак, ужо пасьля Новага Году ў Вільні былі атрыманы весткі, што ўлада ў Слонімшчыне ня толькі ня спыняе штрафаў, але ў некаторых вёсках прыступіла да спагону штрафаў, адмаўляючыся замяняць кару на арышт і забіраючы хатнія рэчы і прылады да працы.

У сувязі з гэтым дэп. Ярэміч паслаў міністру Тугутту тэлеграму, паведамляючы аб палажэньні справы і просячы абароны ад беззаконьня.

**Забарона „ліцытацыі“ сялянскіх гаспадарак—на падаткі.** У адказ на скаргі зямляробаў, якіх руйнуюць ліцытацыі за падаткі, міністэрства скарбу паведаміла ваяводаў, што адбіраць і прадаваць на пакрыцьце падаткаў патрэбныя для гаспадаркі жывы інвэнтар (каней, валоў, кароў і т. д.) рашуча забаронена.

Трэба, каб аб кажным выпадку нарушэньня гэтага, на жаль, спозьненага загаду ўраду пацярпеўшыя зараз-жа паведамлялі беларускіх паслоў.

**Санацыя самаўрадаў усюды, апрача „Крэсаў“.** „Dz. Wil.“ паведамляе, што ўрад, не чакаючы пакуль Сойм прыйме новыя законы аб самаўрадах, маніцца распусьціць усе мястовыя рады і назначыць новыя выбары — па ўсей Польшчы, апрача „Крэсаў“.

Матыў—дрэнная гаспадарка сучасных самаўрадаў...

З гэтага вывад ясны: на „Крэсах“ мястовая гаспадарка п. п. Банькоўскіх—добрая.

**Аб кім дбаюць на „Крэсах“...** Дэлегат ураду паведаміў самаўрад м. Вільні аб тым, што ён павінен даплаціць за 1924 год мястовай паліцыі яшчэ аж 85.845 злотых дадатку...

Прыдзецца ізноў магістрату круціць мазгамі, як яшчэ абкласьці падаткамі і без таго голых жыхароў места—на камфорт для паноў паліцыянтаў... А калі прыпомніць сабе вядомую пастанову рады места аб тым, як добра—пры мільённых выдатках на паліцыю—пешую, конную, ды з кулямётамі жывуць і „працуюць“ у Вільні зладзеі — дык, запраўды, дзіўна будуць выглядаць твары ўсіх тых радных, якія прымуць да ведама гэтае паведамленьне п. дэлегата ўраду.

Трэба адзначыць яшчэ і тое, што гэтыя 85.845 зл. толькі частка вялізарнага дадатку ў цэлы міліён (991.914) злотых, на які павялічаны кошты ўтрыманьня паліцыі ў Віленскім Окрузе (XVI Okr. Pol. Panstw.)!..

Вось яна—найпільнейшая з тых „reform kresowych“, якія абяцаў для „санацыі Крэсаў“ п. Тугутт...

**Напад у Вялейшчыне.** 29/XII ў гм. Хаценчыцкай, Вялейскага пав., банда з 6 узброеных асоб, перайшоўшы граніцу, напала на маёнтак Барсукі п. Рудака. У часе нападу забіты сын і дачка Рудака, а яго самога і работніка напасьнікі павялі з сабой заграніцу. Пагоні ўдалося заарыштаваць 5 падазроных (!) людзей.

**Сьмяротны прысуд ў Сьвянцянах.** У Сьвянцянах 29/XII даразны суд засудзіў Янку Тургеля і Фэлікса Пятроўскага на расстрэл за разбойны напад на Марыю Пашун.

Прысуд выкананы.

# Карэспандэнцыі.

## Як праводзяць у нас языковыя законы.

*(З Пружанскага пав.).*

Школьны Інспэктар у Пружанах у адказе вясковым паўнамоцнікам, якія просяць аб адчыненьні беларускіх школаў, адказвае, што няма йшчэ прыказу на гэта, ды што „stosownie do żądania mieszkańców w szkole może być wykładany język białoruski, jako przedmiot“.

Вось у што ў нашым павеце ператварылася „беларуская школа“...

## Аб Жыдамлянскай школе.

*(Горадзенск. пав.).*

Былі некалі, браткі мае, і нашы дзеткі шчасьлівымі: мелі сваю родную беларускую школу (2 гады па выхадзе Немцаў), але была, ды „збрыла“. І як мы ні прасілі школьную ўладу адкрыць для нашых дзетак ізноў сваю дарагую школу, бо яны, бедненькія, у польскай школе не разумеюць вучыцялёў „пазнанцаў“, ды „галіччан“, — нічога ня выйшла.

На нашу просьбу, ператварыць польскую школу ў беларускую, пан інспэктар адзін раз адказаў тым, што назначыў па 30 зл. штрафу ад дзіцяці, што ня ходзіць да яго школы, а як і гэта не памагае, дык прыслаў кару па 100 зл.! **„Я.“**

23. XI. 24 г.

## Войт—адным голасам!

*(З Райчанскае гм., Навагрaдзкага пав).*

Як толькі да нас дайшлі весткі, што закон аб мовах для нацыянальных меншасьцяў прайшоў у Сойме і Сэнаце, дык сяляне нашых вёсак зараз-жа сталі склікаць сялянскія сходы з тэю мэтаю, каб ператварыць у сваіх вёсках істнуючыя польскія школы ў нашыя родныя беларускія. На гэтыя сходы, паводле закону, запрашалі і п. войта нашае гм., Краскоўскага. Праўда, п. войт Краскоўскі, пачуваючы сябе беларусам, адносіўся надта прыхільна да гэтага імкненьня сялян і ніколі не адмовіўся прыехаць, кіруючыся законамі ўставы школьнае і нават, калі адзін вучыцель у в. Сёгдзе, п. Каролько (хаця па нацыянальнасьці і беларус, але ня лічыць сябе такім), запрапанаваў п. войту: „A może my możemy im odmówić?“ — дык п. войт не згадзіўся на гэта, і прыгавар быў напісаны.

Як толькі даведаўся аб гэтай справе камандант гмінnага пастарунку, дык распачаў сьледзтва проціў п. войта Краскоўскага і, відаць, даў добрую „апінію“ ў Староства на апошняга.

Нарэшце п. Староста назначыў новыя выбары войта. І што-ж з гэтага выйшла? Гмінная рада, уважаючы п. войта Краскоўскага за працаўніка, вельмі карыснага для сялян і ня ведаючы за ім ніякіх спраў, якія-б плямілі яго, аднагалосна выбралі яго войтам.

П. Староста не зацьвярдзіў Краскоўскага войтам і назначылі новыя выбары. На гэты раз ужо знайшоўся адзін радны - панок Карповіч (паляк), які выставіў кандыдатуру і кінуў голас за непажаданага, як для рады, так і для сялян, гэтакага самага панка Рамаyоўскага (паляка), а рэшта радных ізноў галасавалі за п. Краскоўскага.

Староста, бяручы пад увагу „змаганьне“ рады, і, каб зусім ня „скрыўдзіць“ п. Краскоўскага, зацьвярдзіў п. Краскоўскага заступнікам, а панка Рамаyоўскага „з адным голасам“ — войтам.

Рада, баронячы выбарны закон і свае правы на сабраньні, склікaным новым войтам, Рамаyоўскім, адмовілася ад супольнае працы з ім.

Цікава, што засьпявае цяпер п. Староста на гэта радзе і якімі артыкуламі ён кіраваўся, што зацьвярдзіў Рамаyоўскага войтам, калі за яго быў пададзены толькі адзін голас?

**Райчанін.**

# Беларусы у Маскве.

Як і ў старыя царскія часы, Масква, ня гледзячы на істнаваньне Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску, гуртуе многа моладзі з Усходняе Беларусі.

Студэнты з Беларусі з‘арганізаваны тамака ў зямляцтвы—бяз розьніцы нацыянальнасьці. У 22 вышэйшых школах Масквы ў канцы 1922 году вучылася 756 студэнтаў—сяброў беларускіх зямляцтваў.

Паводле сацыяльнага стану дзяліліся яны на тры гэткія групы:

| | |
|---|---|
| сялян | 376 |
| рабочых | 211 |
| інтэлігентаў | 169. |

Па нацыянальнасьці:

| | |
|---|---|
| беларусаў | 447 |
| жыдоў | 281 |
| расейцаў | 16 |
| палякоў | 11 |
| іншых | 1 |

Па губэрням:

| | |
|---|---|
| з Меншчыны | 392 |
| „ Горадзеншчыны | 98 |
| „ Віленшчыны | 42 |
| „ Віцебшчыны | 75 |
| „ Гомельшчыны | 97 |
| іншых | 52 |

Пашырэньне межаў Беларускае Сацыялістычнае Радавае Рэспублікі вельмі значна адбілася на лічэбнасьці беларускае моладзі ў вышэйшых школах Масквы. Цяпер лічба беларускіх студэнтаў перайшла ўжо за тысячу душ.

Разам з тым выяўляецца і ажыўленьне творчае нацыянальнае працы сярод студэнтаў-беларусаў. Гэтак пачаў выходзіць беларускі студэнцкі журнал „Змаганьне“, які, сярод пастаўленых ім сабе чыста клясавых мэтаў, кладзе ў аснову дзейнасьці студэнцкае моладзі „адбудаваньне гаспадаркі і адраджэньне культуры зруйнаванага краю свайго“—Беларусі.

У „Змаганьне“ зьмешчаны рад літэратурных твораў,—у тым ліку творы Ул. Дубоўкі, Л. Родзевіча і інш.

Нацыянальная сьвядомасьць сярод беларускіх студэнтаў у Маскве—**на чужыне**—шмат вялікшая (як відаць з зьместу журналу), чым гэта выявілася ў менскага студэнцтва—**у сябе дома**. І гэта толькі лішні раз паказуе, што йшчэ далёка ня ўсё ў Радавай Беларусі йдзе так, як павінна йсьці...

Моладзь—гэта-ж нашая будучына, нашая надзея. Ды неяк мала Менск аб гэтым думае!

**З. С.**

# Беларусы у Латвіі.

## Водгукі арыштаў беларусаў.

Справа арыштаў беларускіх дзеячоў у Латвіі, што адбыліся ў леташнім годзе, будзе разглядацца ў Дзьвінскім акружным судзе ў канцы студзеня—ці пачатку лютага. Цэлы рад асоб звольнены ад адказнасьці. Судзіць будуць толькі шасьцёх чыста культурных дзеячоў: тварца і дырэктара Дзьвінскае гімназіі Ів. Краскоўскага, школьнага інспэктара Езавітава. дырэктара Люцынскае гімназіі Пігулеўскага. вучыцялёў Якубецкага, Мядзёлку і Корті.

Дзікія закіды, робленыя абвінавачаным на падставе нейкіх ілжывых даносаў, настолькі непадобныя да праўды, што прысуд беларускім культурнікам быў-бы раўназны з адкрытым выступленьнем латвійскага ўраду проці беларусаў наагул. Кажуць, што справа ў значнай меры зьяўляецца вынікам польска-маскоўскае змовы проці беларусаў у Латвіі.

## 5-лецьце „школьнай аўтаноміі“ ў Латвіі.

Усе латвійскія меншасьці ў канцы сьнежня сьвяткавалі пяцілецьце істнаваньня ў краі т. званай „школьнай аўтаноміі“, якая была дэкляравана ў так-званай „Палітычнай плятформе“ 1918 году, а праведзена ў жыцьцё ў канцы 1919 г.

Гэтымі актамі нованароджаная дэмакратычная рэспубліка запраўды сцьвярдзіла сваю дэмакратычнасьць. За гэтыя пяць гадоў працы школьная аўтаномія зусім апраўдала сябе, адбудаваўшы вольнымі сіламі ўсіх народаў—у мірным сужыцьці—зруйнаваную у часе вайны, рэвалюцыі і контррэвалюцыі народную асьвету ў Латвіі.

Як ведама, латвійскі ўрад, які ў сваіх дыпляматычных заявах заўсёды з гордасьцю пазываўся на істнуючыя ў Латвіі нацыянальна-школьныя вольнасьці і раўнасьць, у запраўднасьці патроху пачаў у сябе дома адбіраць гэтыя вольнасьці.

Урад Замуэля пакінуў у справе „ліквідаваньна аўтаноміі“ вельмі сумную памяць.

Новы ўрад ня даў пакуль што ніякіх пацяшаючых абяцаньняў і, відаць, будзе прадаўжаць палітыку папярэдняга.

Дык тым больш энэргіі і запалу ўлажылі меншасьці у сьвяткаваньне 5-лецьця рэалізаванага яшчэ так нядаўна поўнасьцю вялікага дэмакратычнага і пэдагагічнага прынцыпу вольнай народнай школы ў матчынай мове, утрымліванай дзяржавай на падставе так-званых „прапорцыянальных бюджэтаў“. І гэтае сьвяткаваньне ператварылася ў імпануючую дэманстрацыю проці новай антыдэмакратычнай, антыкультурнай палітыкі апошніх урадаў.

# Усячына.

## Скарб Кіева-Пячэрскай Лаўры.

„Роста“ паведамляе, што ў Кіеўскай Печэрскай Лаўры знойдзены ў падзямельлі вялізарны скарб: некалькі пудоў золата, 110 пудоў серабра і 360 брыльянтаў, апрача інш. каштоўных рэчаў,—а таксама—працэнтных папераў на некалькі мільёнаў рублеў.

## Дыспут аб украінскай мове.

У Кіеве адбыўся публічны дыспут аб украінскай мове. Былі выслуханы даклады прафэсароў і акадэмікаў-філялёгаў. Дакладчыкі даводзілі канешнасьць устанаўленьня аднолькавага правапісу і апрацаваньня навуковае тэрміналёгіі.

Пастаноўлена залажыць у Кіеве „Таварыства дапамогі разьвіцьцю ўкраінскай мовы“ і арганізаваць пры акадэміі бюро ўкраінскіх філялёгаў, якое і мае выпаўніць усе намечаныя задачы.

## 800 казьняў бяз суда...

З Кітаю паведамляюць, што ў м. Кагдане (каля Пэкіна) пасьля бунту ў аднэй з вайсковых часьцей 800 жаўнерам была абяцана амністыя, калі яны вернуцца да дысцыпліны. Калі-ж яны ўсе ўвайшлі ў вагоны, іх, па загаду генарала, зачынілі, вывезьлі ў поле і там усіх 800 расстралялі.



Выдавец **Антон Пракапеня.**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.